Пролетары ўсіх краін, злучайцеся

# Чырвоная Беларусь

ВЕРАСЕНЬ 1932

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Савецкая, 59 Тэл. № 17—09

18





Падрыхтоўка кадраў для МТС — важнае зьвяно ў забесьпячэньні пасьпяховага правядзеньня гаспадарча-палітычных кампаній

БАРЫС МІКУЛІЧ

# Рабінавыя ночы



У сетцы геаграфічных шырынь і даўжынь, там, дзе аплятаюць яны цэнтральныя мясцовасьці Беларусі, бываюць ночы, ціхія, нібы „Іа“ і празрыстыя, амаль крыштальныя—ні даць ні ўзяць: папяросная папера. Ночы гэтыя бываюць тады, калі адцьвітаюць ліпы, калі першыя кроплі пялёсткаў блішчаць на позьняй рабіне,—пэўне таму, што зацьвітае рабіна млоснай бялізной свайго дробнага квецьця, ночы гэтыя завуць рабінавымі. У прасторах бліскаюць зарніцы. Гэткімі начамі тонка гудзіць камар, сярэс п'яны нямудрым сваім існаваньнем у вялізарным корабе сьвету. Можна слухаць камарыную песьню і адчуць мізэрнасьць свайго бытаваньня,—гэтая маленькая казюлька верашчыць да адчаю нудна і аднатонна.

Пра геаграфічную шырыню і даўжыню, пра дзівосную сетку іх, намаляваную рукою геаграфа, ня думаў Клім Вяршынін, узіраючыся ў папяровую далеч начы. Шырыня і даўжыня, мэрыдыяны і роўналежнасьці адышлі ў далёкае мінулае, і хоць век Клімаў быў невялікі, але ёсьць у юнацтве пара, калі хочацца быць старэйшым свайго ўзросту: успамінаць тое, што было ў дзяцінстве неяк сорамна, бо дзяцінства гэтае адступіла яшчэ толькі на адзін крок.

І горш за ўсё было тое, што менавіта нешта нейкае з дзіцячых год, што моцна ўрэзалася за Клімаву памяць, усплывала цяпер на розум, а адагнаць яго ніяк не ўдавалася,—пішчанём лезьлі акраўкі яго ў галаву і пагражалі аформіцца ў цэльны малюнак мінулага.

Вочы балелі ад напружанасьці—яны глядзелі ў неўтрапеннасьць начы, хацелася гэтым болем адагнаць няпрошаныя думкі, думкі, нібы шчанё галоднае, неадчэпныя. Але намаганьні былі дарэмнымі.

Высокі ладны ў стане, з узьнятай угору правай рукой, з шырака раскінутымі нагамі быў той чалавек, цень якога лёг на белую дарогу. Чалавек, відаць, прыпыніўся, каб лепш арыентавацца ў цемры. І у тую самую хвіліну Вяршынін адчуў на ўсім сваім целе тклівы позірк вачэй чалавека. На Вяршынінавым твары выступіў пот—буйны халодны пот, і кожная кропля яго мела сваю асобную важкасьць.

Вяршынінавы рукі мацней сьціснулі вінтоўку.

У гэты-ж момант пазаўчорашнія падзеі паўсталі перад ім з дакладнай акрэсьленасьцю, нібы на фотаздымку. Пазаўчорашняй ноччу кампанія гуляк гарадзкой ускраіны, паслабіўшы лейцы розуму ад вялікае колькасьці малебнаў у гонар Джона Ячменнае Зерне, учыніла напад на лягеры. Вораг быў ня надта грозным бо Джон Ячменнае Зерне моцна трымаў у палоне тры чвэрці гэтай блатной кампаніі, але вэрхал тым часам быў вялік. Блат учыніў налёт на жаночую частку лягеру, кіруючыся невядомымі лагерн кам меркаваньнямі, але Натка Карабельнікава—бялявы чэмпіён апошняга асоавіяхэмаўскага спаборніцтва на лепшага снайпера—пасьпела ўзьняць на ногі ўвесь лягер трыма мужнымі стрэламі. Суседзі зборнага жаночага атраду, студэнты лесапрамысловага інстытуту, першымі ўчулі трывогу. Кінуўшыся ад усяе сілы на дапамогу Карабельнікавай, яны прысьпелі ворага якраз тады, калі той пераходзіў „лінейку“. Напад быў адбіты і блат пасьпеў адступіць у цемру, пакінуўшы ў руках лягернікаў аднаго са сваіх таварышоў, які так многа выпіў перад нападам, што нават заснуў неўтрапенным салодкім сном. Раніцою ён ачуняў і ў муце ягоных вачэй было недаўменьне і трывога. Вяршынін сустрэўся з ім позіркам і пазнаў гэтага няудалага рыцара гарадзкое ўскраіны, імя якой—„п'яная слабодка“, і пазнаў знаёмую трывогу перад грознымі пратаколамі і судамі.

І вось цяпер, у рабінавую ноч, сьціскаючы рукамі вінтоўку, узіраючыся ў абрыс чалавечай постаці, што ляжала на белай дарозе, Вяршынін адчуваў такі-ж самы позірк вачэй—упарты, войстры, які быў у палоннага гулякі.

Цень ня кратаўся. Можа чалавек, прытаіўшыся ў цемры, вырашаў стратэгічныя задачы? Можа ён чакаў сыгналу ад сваіх таварышоў, якія ішлі на лягер з розных бакоў? Гарачае ўяўленьне раз-по-раз дыктавала ўсё новыя і новыя здагадкі, і гэтыя здагадкі, складаючыся з хуткасьцю арыфмомэтра, давалі ў сваёй суме жахлівы малюнак новага нападу блатной банды на лягер.

Але цень упарта ня кратаўся. У гэтай нерухомасьці быў выразны зьдзек з Вяршынінавай трываласьці. І ня зьдзек, а правільней—абраза.

Страляць! Гэтая думка апанавала Вяршынінаў розум. Стрэліць раз—другі, узьняць на ногі ўвесь лягер, прымусіць чалавека скрануцца з месца—або туды, у цемру, або сюды, і рашыць з гэтым начным прывідам.

Цень нярухома ляжаў на белай дарозе.

Не, страляць ня трэба. Узьнімецца ўвесь лягер. Будзе вялікі вэрхал, можа нічога няма, можа яму проста прывярзлося і тады—сорам.

Ад Вяршыніна да палатак—крокаў трыццаць. Можна ўмомант дабегчы да іх, пабудзіць аднаго—двух хлапцоў і тады ўжо вырашаць плян дзеяньняў. Вяршынін падаўся да палатак і ў тую-ж хвіліну адчуў, як гарачыня залівае яго твар і шыю: пачуўся хрумст. Гэта, бязумоўна, хрумснула сухое гольле пад нагамі.

Вяршынін пабег.

Шмат адчуваньняў зьмянілася ў гэты час, хоць і бег ён менш за хвіліну. І раптам ён прыпыніўся, краем сьвядомасьці зразумеўшы, што бегчы яму дужа лёгка. Вінтоўка! Гэтая думка адразу працьвярозіла яго. Вінтоўка! Ён яе кінуў. Вінтоўка! Ён крута павярнуўся і нэрвовым крокам пашоў туды, адкуль прыбег.

— Дзе твая вінтоўка, Вяршынін?—раптам учуў ён голас дзяжурнага па лягэру.

Вяршынін стаяў нярухома.

— Дзе твая вінтоўка? зноў паўтарыў дзяжурны сваё запытаньне, забываючы на рытуал, і пры бляску месяца Вяршынін убачыў сваю вінтоўку ў ягоных руках.

— Аддай!—машынальна Вяршынін працягнуў руку за вінтоўкай, але ў той-жа самы час ён пачуў побач з сабой сьмех і рука апусьцілася.

— Тут сьмешнага мала,—строга абарваў дзяжурны хлапца, які ня мог стрымацца.—Ты яе атрымаеш заўтра з рук начальніка лягеру,—сказаў ён да Вяршыніна,—Можаш ісьці...

Цень вялізарнага чалавека ляжаў на белай дарозе. Вяршынін папляўся да свайй палаткі, праз сілу атрымліваючы адчуваньні крыўды і сораму.

Крыўда і сорам! Гэта быў толькі пачатак даўгой ніткі адчуваньняў, якія чаргаваліся ў Вяршынінавай істоце наступнымі днямі.



Малюнкі З. Азгура.

Асоавіяхэмаўскі комсамольскі лягер быў той стромай маладосьці і бадзёрасьці, якая кожная хвілінай магла хлынуць нястрымана з берагоў. І гэтая строма хлынула. Маладосьць і бадзёрасьць былі абражаны Вяршынінавым учынкам. Вяршынін нібы кінуў выклік усяму лягеру. Дысцыпліна была парушана. Здаровы, асмужаны, дваццацігадовы комсамолец Клім Вяршынін, які так эфэктна ўганяў у вароты футбольны мяч, і адным ударам сваёй нагі ўмеў выйграць, здавалася, прайграную партыю, комсамолец Вяршынін, які быў адным з ініцыятараў стварэньня асоавіяхэмаўскага лягеру,—ніхто іншы, а іменна ён кінуў вінтоўку на варце, парушыўшы гэтым самым усе існуючыя да гэтага законы дысцыпліны. Калі-б чырвонаармеец кінуў вінтоўку, ён-бы адказаў за гэта, як за вялікае злачынства. Гэта ведалі ў лягеры ўсе, і нават самыя слабыя з слабых дзяўчат мужна прастайвалі з вінтоўкай у руках гадзіны сваёй варты.

Тут нешта было, чаго не разумелі Клімавы таварышы, як не дапытвалі яго. Вяршынін упарта маўчаў і па захмурнеламу ягонаму абліччу можна было бачыць, што дакучлівыя распыты прыйшліся яму не да смаку. Але трэба было дзейнічаць энэргічна і рашуча. І комсамольскае кіраўніцтва вырашыла аддаць Клімаў учынак на справядлівы таварыскі суд. На пляцоўцы, дзе сонца саткала дзівосны ўзор ценяў, дзе сабраўся ўвесь лагер, судзілі Вяршыніна. Ён сядзеў спакойны і ўдумлівы і гарачыя дэбаты, што былі наўкола, здавалася, ня тычыліся яго.

— Што прымусіла цябе, Вяршынін, пакінуць пост?

У дзесяты раз задавалася гэтае запытаньне, суд павінен быў будаваць на вяршынінавым адказе свой прысуд, але гэтага адказу якраз і ня было, у судовых руках ня было самага асноўнага, караня справы. Клім Вяршынін маўчаў. Ні абвінаваўцам, ні абароне ён не даваў матэрыялу і трэба было браць факт сам-па-сабе, ня ўскрываючы псыхолёгічнай тканіны яго. Адказы Клімавы былі нязьменнымі:

— Ня ведаю. Мяркуйце самі.

І толькі тады, калі абвінаваўцы рэзка паставілі пытаньне пра выключэньне Кліма Вяршыніна з комсамольскай арганізацыі, на спакойным ягоным абліччы прайшоў трывожны цень, вочы спалохана мятнуліся па ўсіх прысутных і Клім Вяршынін, перамагаючы хваляваньне, сказаў:

— Ня выключайце, таварышы, мяне...

— Твой учынак,—сказаў старшыня суду,—ганебны ўчынак, які кідае пляму на цябе, як на комсамольца.

— Я гэта ведаю і асуджаю яго... Але прашу шчыра—ня выключайце. Я зраблю ўсё... Я давяду на справе... Я ўсімі сіламі буду намагацца змыць з сябе пляму... Верце.

Верыць Кліму Вяршыніну можна было: за ягонымі маладымі плячыма было шмат такога, што галасавала за яго, як за спраўнага комсамольца, добрага таварыша і работніка. Яму далі вымову. Суровую вымову, запісаную ў асабістай справе, і гэтая першая вымова глыбокую зьвіліну пакінула ў Клімавай сьвядомасьці. Яму далі першую вымову, і на гэтым здарэньне было ліквідавана для ўсіх Клімавых таварышоў, для ўсяго лягеру.

Але для яго яно толькі пачыналася.

Ён гэта разумеў, кладучы пад падушку акуратна складзеныя порткі і ставячы каля ложку—у галавах—боты з пакладзенымі на іх парцянкамі. Была млосная ноч і густая гарачынь паветра ішла ў палатку праз палатно. Ён лёг, прабуючы адагнаць трывожныя думкі, але на цесных нарах было яшчэ гарачэй. Ён ціха ўзьняўся і вышаў на паветра.

У супроцьлеглым канцы лягеру—у зборным жаночым атрадзе—у аднэй з палатак таксама ня спалася баявому снайпэру. Натка Карабельнікава сядзела, абняўшы рукамі калены. Калі-б ня ноч, можна было-б разгледзіць вялікія чорныя вочы і напоўадкрыты маленькі рот з пухлай верхняй губой. І вялікія чорныя вочы, што ўзіраліся ў цемрыва, і маленькі напоўадкрыты рот выразна пацьвярджалі тое, што Натка Карабельнікава думала. Пра каго? Пра яго, пра Кліма Вяршыніна.

Цяпер стаіць ноч і нельга разабрацца дакладна ў дзявочых думах, бо для гэтага трэба бачыць твар. Выкарыстаем гэты выпадак, каб зрабіць маленькі экскурс у мінулае.

Гэта было ня дужа даўно, гэтай вясной.

Пад гром духавога аркестру і павевы гліцы сінемайкавыя фізкультурнікі заганялі мяч у вароты нямецкай каманды. У самы крытычны момант адзін з нашых футбалістаў, пасьлізнуўшыся, упаў і зьвіхнуў нагу. Замест яго стаў у каманду Клім Вяршынін. Стадыён стрэў яго скэптычна. Стадыён апледыраваў нямецкай камандзе. Вынік да Вяршынінавага ўступленьня ў гульню быў 6:0 на карысьць немцаў. Вяршынін, хмурачыся, пагнаў мяч.

Аплёдысмэнты сьціхлі. Стадыён насьцярожана сачыў за гэтым юным футбалістам: ён вёў мяч артыстычна. Немцы паддаліся, у канцы другога тайму нямецкая каманда крычала: „Гох" у наш гонар. Вынік гульні быў: 6:7 на карысьць нашых. Нямецкія футбалісты, абціраючы потныя целы, горача ціснулі Вяршынінавы рукі. У гэтым спаборніцтве Вяршынін прынёс перамогу нашай камандзе, і маленечкую перамогу сабе...

Натка Карабельнікава сачыла за ім усю гульню і, пакідаючы стадыён, яна запомніла сьвежую царапіну на ягоным калене. Царапіна была вялікая і кропелькі крыві цяклі па назе. Перад адыходам яна паклікала знаёмага футбаліста і сказала:

— Вазьмі хустачку і занясі гэтаму...

— Каму гэтаму?

— Ну... Вяршыніну, ці як яго там... у яго кроў на назе...

Знаёмы футбаліст, бяручы батыстовую хустачку, здагадліва засьмяяўся, а Натка Карабельнікава пасьпяшалася на вуліцу. Трамвай імчаў яе разам з яе радаснай трывогай—радаснай трывогай у дзевятнаццацігадовых высокіх грудзях.

Праз тыдзень „анкета" была запоўнена... Яму дваццаць гадоў. Комсамолец. Вучыцца ў будаўнічым інстытуце на другім курсе. Сяброўкі паказалі ёй Клімаву „сымпатыю" і, параўноўваючы яе з сабой, Натка Карабельнікава задаволена ўсьміхнулася. У гэтай усьмешцы была перамога.

На гэтым мы спынім наш экскурс таму, што чытач надзвычайна добра ведае, што было далей.

... Наступныя дні Натка надумысьля не сустракалася з Вяршыніным. Ягоны ўчынак яе абразіў, абразіў іхнае сяброўства. Яна чула, што Вяршынін у вольны час ня гуляе больш у футбол, таварышы скардзіліся, што без яго нельга будзе выступіць на асеньніх спаборніцтвах, а ён упарта ня выходзіць на трэніроўку. Натка ведала, што праз колькі дзён ён прыдзе да яе і тады яна будзе патрабаваць ад яго тлумачэньняў. І яна не памылілася.

Клім Вяршынін прышоў да яе, і, як звычайна, яны пашлі за лягер, на старадаўняе ўзвальле, на цёплую траву. Бралася на вечар. Яна села і ён паклаў галаву на яе калены. Інстынктыўна ёй захацелася запусьціць свае пальцы ў мяккую ягоную шэвелюру. Стрымалася. Ён маўчаў і глядзеў у неба.

Яна. Ты маўчыш, Клім...

Ён. Нудна.

Яна. Нудна? Хутка зьменьваецца ў цябе настрой, няма чаго казаць. Ты-ж сам насіўся, як апантаны, з ідэяй арганізацыі лягеру... Ты-ж сам протэставаў супроць дому адпачынку... Паглядзі. Твая ідэя ажыцьцявілася. Лягер жыве вясёлым жыцьцём. А ты кажаш—нудна...

Ён. Лягер прынёс мне першую буйную няпрыемнасьць.

Яна. Першую?

Ён. Першую і апошнюю.

Яна. Ты ўпэўнен? Але як... як гэта здарылася, Клім? Чаму ты ўпарта пра гэта маўчыш?

Ён. Ты не зразумееш...

Яна. Ну... Зразумела, Клім. (Яна пяшчотна дакранулася рукой да ягонай галавы). Бралася на вечар. Хараша заходзіла сонца, крывавячы вяршаліны дрэў. Усё навакольнае зьменьвала афарбоўку. Блізкасьць любага чалавека дзейнічае такім часам на людзей лірычна. І Кліму Вяршыніну захацелася гаварыць. І ён гаварыў:

— Я помню ў дзяцінстве... Мяне страшылі заўсёды цемрай. Казалі, што ў цемры цыганы... І калі здаралася прабягаць праз цёмны пакой—заўсёды жмурыў ад страху вочы. Помню, як цяпер...

— Але што было ўначы? На пасту?—дапытвалася Натка.

— Уначы?—Ён доўга маўчаў, шукаючы прасьцейшых слоў.— Мне здалося, што нехта сочыць за мной, бачыў цень... І я...

— Спужаўся?!

— Я ўспомніў дзяцінства, цёмны пакой, цыганоў... А вінтоўку, вінтоўку я неяк неспадзёўкі... Зусім неяк так.

І яна ўзьнялася з месца. Ён сачыў за ёй, лежачы, і прачытаў ва ўсёй яе істоце абурэньне і пагарду.

— Натка!..

Яна крута павярнулася і шпаркімі крокамі пашла да лягеру. Ён усхапіўся. Хацеў дагнаць. Яна прысьпешыла крокі і адно растрапаліся на ветры яе валасы.

— Натка!..

Ён пашоў у лягер і, праходзячы паўз спортпляцоўку, убачыў комсамольцаў, што валтузіліся з футбольным мячом. Яго заўважылі.

— Клім прышоў,—ціха сказаў адзін да аднаго, але вецер данёс гэтыя словы да ягоных вушэй.

Бралася целам злосьць. На сябе, відаць. А разам са злосьцю—нешта мацнейшае, нешта большае: крыўда. Ён рашуча пераскочыў праз працягнуты канат і падышоў да футбалістаў.

— Давайце мяч, згуляем...

Мяч высока ўзьляцеў над зямлёй, нясучы з сабой частку Клімавай злосьці і крыўды

Так скончылася здарэньне, што пачалося рабінавай ноччу, гэткай-жа самай, як і цяпер. Бачыце: гэтая ноч акрывае зямлю пяшчотамі і прывідамі, і за заслонай гэтай рабінавай ночы ня відаць, як закрыла рукамі свой твар Натка, як нэрвова дзёргаюцца яе плечы ў нячутным дзявочым плачы.

**П. І. ЧЫКУН**

# На акамсамоленым полі

Два месяцы назад тут, дзе зараз разьлілося жоўтае мора буйнага ільну, чарнела пустатой глеба.

Вось тут, каля дарогі, варочалі трактары скарынку сырой зямлі. Адзін за адным у круг, пісяжылі яны глебу моцнымі чатырохлямешнымі плугамі. Потым дыскавалі. Баранавалі „Зіг-Загам". Сьледам плавалі шырокія сеўнікі—рассыпалі шакаладныя зерні ільну ў мяккую пасьцель глебы. Разам з першымі ўсходамі кволага ільну паказалі галаву шкоднікі: сьвірэпка, лебяда, асот і інш.

Тады ўзяліся чысьціць поле—палоць.

З дня ў дзень вязаўся ланцуг работ на ільняным полі.

І вось 30 ліпеня. Выезд брыгад саўгасу на ўборку. Кароткі мітынг. Перад строем брыгад, якія сабраліся ў наступ на лён, яшчэ раз паўтараецца задача:

— Да 25 жніўня лён убраць... Магчымасьці ёсьць... Мы трымаем экзамен працаваць па-сацыялістычнаму,—выкідвае лаконічныя сказы дырэктар саўгасу.

Заварушыліся трактарысты каля „Інтараў". Запахла перагарам газы і бэнзыну.

Калёны ўзьнімаючы пыл, палохаючы цішыню палёў, разьехаліся на месца работы.

І вось пашла ўборка. Адступаюць ільняныя плошчы, пакрываючы палі тугазьвязанымі снапамі.

За вярсту даносіцца рокат „Інтараў". Што раз усё бліжэй і бліжэй манатонная з бурнымі пералівамі песьня машын. „Туды... хутчэй... дзе яны"... агенчыкам бліскае думка. Ахвота хутчэй убачыць работу камсамольцаў, на іх акамсамоленым ільняным полі—вучастку.

Камсамольскія вучасткі ў саўгасах—справа маладая. Вучастак у саўгасе „Бігосава" нарадзіўся толькі сёлета вясною перад выхадам на палявыя работы.

У памяць уеліся простыя, але поўныя глыбокага зьместу словы сакратара камсамольскай ячэйкі саўгасу тав. Кузьміча.

— Наш вучастак першым засеяў 325 *га* ільну з 600 *га* ўсяго пасеву. Мы тады рапартавалі аб гэтым райкому партыі і камсамолу. Першы экзамен мы вытрымалі на добра.

Больш паловы ўсяго пасеву ільну ў саўгасе засеялі камсамольцы.

— Лепшы з лепшых у нас гэта Барэйка, ён з самага пачатку працуе на камсамольскім вучастку—з ахвотай паведаміў Альфонс на просьбу назваць імя лепшага ўдарніка яго вучастку. Дырэкцыя саўгасу, рабочыя—усе хваляцца імем Барэйкі.

— Ого! наш Барэйка, дзе ён пройдзе адразу спазнаеш. У яго машыны проста пішуць, адвядзе лінію, што тая струна—ідучы на полі, апавядае пра работу Барэйкі камсамолец Храмчанка.

— Гляньце вось сюды,—Храмчанка паказаў на выцерабленае поле абапал дарогі,—тут церабіў Барэйка, а вось тут Грыцук—ён разьвёў рукамі, твар расплыўся ў вясёлай ухмылцы.

Ня было чаго казаць. Работа абодвых трактарыстаў відаць, як на далоні і бяз слоў.

Дзе працаваў ударнік—поле начыста выцераблена, акуратна разасланы жменькі выцерабленага ільну. Дзе працаваў няўважлівы, што гоніцца толькі за колькасьцю трактарыст—поле заслана збэрсаным і памятым ільном, які не чапіла ільнацерабілка, а прытаптаў трактар.

Якасьць характарызуе работу вадзіцеля ільнацерабільнага агрэгату—трактарыста.

* * *

Укругавую па касагору коўзаецца запражка машын—„Інтар" і дзьве „Камсамолкі". Дужы трактар тарабаніць за сабой 2 ільнацерабілкі.

Гэта ільнацерабільны агрэгат Барэйкі.

— „Камсамолкі" жалезнымі пальцамі сьпіц падаюць лён у гумавы канвэер пасоў, які з хуткасьцю маланкі імчыць сваю здабычу на пляцформу прама ў рукі камсамолкі без двукосься—Олі. Чуць упраўляецца Оля адсоўваць істужку мяккага ільну сваей суседцы Вікці, якая набірае ільну на сноп і кідае яго з боку церабілкі. Скінуты лён спрытна расьцілаецца на полі пад сонечнымі праменьнямі для прасушкі.

На другой „Камсамолцы" аналёгічную апэрацыю робяць Апанас і Міхась.

Вадзіцель агрэгату Барэйка сьмела і хутка гоніць наперад машыны, лоўка заварачваючыся з агрэгатам на паваротах. Ззаду сочыць за работай церабілак. Глядзіць, ці добра бяруць захват церабілку, ці акуратна кладуцца снапы. Ён камандзір агрэгату і адказвае за яго работу. Барэйкава сяброўства—з пяці асоб камсамольцаў. Яшчэ на роўных „правох" у іх грамаду ўваходзіць тры сябры: „Інтар" і дзьве „Камсамолкі". Гэтая тройка жыве сваясаблівым жыцьцём і разам з тым іх жыцьцё зьвязана з работай усіх агрэгатчыкаў.

Іх дружная сем'я змацавана такім трывалым матэрыялам, як ударная работа Вынік іх дружбы—найлепшыя ў саўгасе паказальнікі работы, як па колькасьці, так і па якасьці.

З першых дзён работы Барэйкаў агрэгат паказаў пэрспэктыву на пяршынства.

— Я надта ўжо і не хватаюся, а заўсёды быў першым. А чаму? У мяне заўсёды машыны падрыхтаваны і спраўны і таму ня бывае астановак у полі, як гэта часта здараецца з маімі суседзямі. Мае машыны ўвесь час стрыгуць і стрыгуць—раскрывае Барэйка свае „сакрэты".



**Механізаваная ўборка ільну. Ільноцерабілка „Сунена" за працай на палёх ільносаўгасу імя Вільямса (Маскоўскай вобласьці)**

У гэтага спраўнага трактарыста выпрацаваўся навык да акуратнасьці ў рабоце, што і дае высокую якасьць.

Штодзенна перавыконваецца норма выпрацоўкі.

— Мы сваім агрэгатам выцярэбліваем тры, тры з паловай гэктары— бяз чванства, але з гонарам дапамагае апавядаць Барэйку—Оля.

Для таго, каб ведаць, што такое выцерабіць 3—3,5 *га* трэба прыняць пад увагу, што норма на гэтай рабоце ўстаноўлена 1,9 *га*.

Гэта лічба не рэкорд, а штодзенны паказальнік работы Барэйкавай брыгады.

* * *

Трудна даць веры, што яму толькі 19-ы год. Рослы, шырокаплечы. Смуглы твар пазірае шызымі праніклымі вачыма. Упэўнены ў руках, скупаваты на словы, ён больш падобен на рабочага сярэдніх год.

За апошнія два гады Барэйка прайшоў своеасаблівую школу жыцьця і вытрымаў экзамэн на лепшага з лепшых ударнікаў.

Нясьмелым сьціплым дзяцюком прышоў ён з вёскі на курсы трактарыстаў. Тры месяцы прашлі ў вялікай натузе асваеньня трактарнай тэхнікі. Ён сам успамінае:

— Цяжкавата было, а стараўся, запомніць кожны вінцік, кожную трубачку. Вялікая ахвота была стаць трактарыстам.

І ён ім стаў.

Як лепшы трактарыст ён першы час рамантуе трактары. Цэлае лета лечыць хворых „Фордаў“ і хваравітых „Інтэраў“.

К восені надакучыла. Павабіла палявая работа.

— Пусьцеце мяне на поле. Хачу сам працаваць на машыне—заявіў Барэйка дырэкцыі.

І яго адпусьцілі.

— Такія людзі нам дарагі, ня трэба ім перашкаджаць,—быў адказ дырэктара загадчыку майстэрні, які супярэчыў.

Пасьля гэтага Барэйка быў на курсах па вывучэньні ільнацерабілкі „Камсамолка“ пры Любярэцкім заводзе.

Зараз мы яго бачым на полі камсамольскага ільнянога вучастку. Камсамольцы справядліва ганарацца сваім героем. Яны маюць рацыю.

Барэйка член шматтысячнай камсамоліі. Ён яе сын, выхаваны нашай сацыялістычнай сапраўднасьцю.



Т. Фасава—адна з лепшых ударніц ільнозаводу імя Молатава (Маск. вобл.)



Брыгадзір лепшай брыгады церабільшчыц ільносаўгасу імя Вільямса—т. Ільіна

СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

# Нада

(Балада)

Пад шырокім вязам сяду
На бяду—калоду злую...
Ой ты, Наду, мая Наду,
Чуеш Наду, як сумую?

Перамогай вецер лезе,
Па глухой траве вандруе,
Голас мой бяжыць па лесе,
Па пустых пясках туруе...

Дзе вы, хлопцы, верны падам
Пад якой сасной заснулі?
Дзе ты сонца маё, Нада
Ад варожай легла кулі?!

Неахайна, вецер лезе
Па глухой траве вандруе,
Пошчак мой бяжыць па лесе,
Па пустых пясках туруе.

Толькі пошчак не да ладу...
Балячо прыняла згуба,
Але мы запомнім, Нада
Гэта мы запомнім, Люба!

Вось яна мясьціцца гэта,
Дзе калісьці быў прыстанак,
Трэск кастроў і звон багнэтаў
Рэвалюцыі адданых.

Вось дарога... лес... паляна,
На паляне слуп жывучы...
Тут дванаццаць расстраляна
Партызанаў няўміручых.

Усе яны былі, як рынак,
Тэнчаю жыцьцё насілі...

. . . . . . . . .

Плакала дванаццаць матак
Кожная па родным сыне.

Ноч была за пекла горшай,
Прорваю ішла навала,
Воўкам на крывавы пошук.
Польскі выбягаў маршалак

Збройныя ішлі салдаты
Тупаталі коні люта,
Крыж сухі ля кожнай хаты
Ставіла бяда—пакута.

Тэй начы, ня спалі хлопцы
Біліся на змор, да ўпаду.
Тэй начы на зьбітым фронце
Выбілася з сілы Нада.

Чуеш, Нада? Вораг лезе!
Сіл няма! Трымайся, Нада!..
Цэліць пан у сэрца... (ледзьве)
Любая! Трымайся Нада!..

Стрэліла! няма набояў,
Ворагі ўжо блізка, блізка...
Стрэліла! Прыціхлі хвоі,
Стрэльба стала склізкай,
склізкай...

Потым ноч... Высокі бераг...
На пралом вятроў да ранку
Катавалі афіцэры
Камуністку-партызанку...

. . . . . . . . . .

Вяз шуміць і плача потай
Матчын смутак кветкі гояць...
Але мы згадаем потым
Гэта ўсё, парой другою...

Ты шумі, нясі, дуброва,
Па лістох думу, па гліцах,
Шчэ прыдасца гэтым словам
Жыць, сьпяваць і навальнічыць.

Вось, калі той час настане
І краіна зноў пакліча,
Мы тады згадаем пану,
Да крывінкі ўсё падлічым!..



Народны артыст рэспублікі Галубок

Р. ГОРСКІ

# ад ВАНДРОЎНАГА да СТАЦЫЯНАРНАГА

## ШЛЯХІ РАЗЬВІЦЬЦЯ БДТ-III

Пастановай Савету Народных Камісараў і Наркамасьветы—Беларусі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр, пад кіраўніцтвам народнага артыста Галубка, у пачатку 1932 г. быў рэарганізаваны ў стацыянарны пад назвай БДТ-III.

У пастанове Наркамасьветы зазначалася, што тэатр зрабіў значныя крокі ў галіне стварэньня сапраўды мастацкага рэпэртуару, перабудаваў сваю работу ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі шырокіх мас — будаўнікоў сацыялістычнага грамадзтва.

Маючы за сабой 10-гадовы вопыт самастойнай працы—тэатральны калектыў з усёй адданасьцю ўзяўся за падрыхтоўчую працу—якая вынікала ў сувязі з станцыянарнымі формамі дзейнасьці.

Сталым месцам на сэзон 1932 году, быў прызначаны г. Віцебск—адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў БССР.

Тэатр за ўвесь час сваёй працы быў цесна зьвязаны з рабочымі і працоўнымі сялянскімі масамі і таму пэрспэктыва працы тэатру ў г. Віцебску, была ў пэўнай меры знаёмай.

Яшчэ ў часе сваёй працы па рабочых клюбах г. Менску—тэатр наладзіў цесную сувязь з заводам імя Варашылава.

На агульным сходзе рабочых і актораў — быў заключаны сацыялістычны дагавор аб шэфстве рабочых заводу над тэатрам.

Рабочыя патрабавалі ад тэатру, каб ён наблізіў сваю работу да патрабаваньняў сацбудаўніцтва.

Каб ён сваёй працай мабілізаваў масы на выкананьне баявых плянаў пяцігодкі.

Кароткія, але ясныя пункты ўмовы непасрэдна ператвараліся ў жыцьцё—пры актыўным удзеле як рабочых заводу, так і супрацоўнікаў тэатру.

Яшчэ ўлетку прошлага году тэатр прарабіў вялікую працу па абслугоўваньні чырвонаармейскіх мас Маскоўскай Ваеннай акругі.

У шматлікіх водзывах, якія тэатр атрымаў ад паасобных вайсковых частак акругі, неаднаразова падкрэсьлівалася, што тэатр сваёй працай даў неабвяргальны прыклад таго, як трэба працаваць на абарону краіны Саветаў.

Спэктаклямі і канцэртамі тэатру была абслужана каля 50 тысяч чырвонаармейцаў (было дадзена 50 паказаў).

Сярод значных дасягненьняў тэатру трэба лічыць яго шматгадовую працу па абслугоўваньні вясковага насельніцтва—калгасаў і саўгасаў Беларусі.

Калі глянуць на карту абшараў Беларускай Рэспублікі — то амаль няма ніводнага больш менш значнага мястэчка, вёскі, калгасу,—дзе ня быў-бы ранейшы Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр—сучасны БДТ-III.

Паводле самых сумарных падлікаў за 11 год працы, тэатрам для вясковага насельніцтва было дадзена каля 2000 паказаў - абслужана агульнай колькасьцю гледачоў 500.000 ч.

Моцна зьлітаваны тэатральны калектыў, маючы за сабой значныя дасягненьні, з вялікай ахвотай прыступіў да наладжваньня самастойнай і сталай працы ў г. Віцебску.

У рэпэртуар тэатру быў уключаны ідэалёгічна выразны матар'ял—выхоўваючы ў гледача волю да барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ў нашай краіне („Ярасьць", „Дыктатура"), матар'ял, які заклікаў да абароны Савецкага саюзу — як бацькаўшчыны працоўных усяго сьвету—(„Гальштук", „Віхор", „Энтузіясты" і прэм'ера З. Курдзіна „Контр-атака").

Спэцыяльна арганізаваны сымфонічны аркэстр (у складзе 30 чалавек) даў магчымасьць у больш мастацкай форме праводзіць усе пастаноўкі тэатру, а таксама і шматлікія выязныя канцэрты тэатру, якія даваліся на прадпрыемствах г. Віцебску (ф-ка „Дзьвіна", мэталістыя, фанерны завод, чыгуначнікі воднікі, школы і г, д.) у часе абедзеных перапынкаў.

Большасьць паказаў тэатру былі зачыненыя, даваліся выключна для прадпрыемстваў гораду.

З пастановак тэатру асаблівым посьпехам карысталася п'еса маладога драматурга сябра Лачаф — *Д. Курдзіна* „Контр-атака"...

Аўтар гэтай п'есы вядомы гледачу—паколькі першая рэч гэтага драматурга „Міжбур'е"—выклікала значную зацікаўленасьць і ставілася па ўсім СССР.

Тэматыка п'есы „Контр-атака" вельмі актуальна—абарона Савецкага саюзу, барацьба са шкоднікамі-інтэрвэнтамі.

На рубяжы Савецкага саюзу і адной з капіталістычных краін—будуецца вялікі мост.

Чырвоная армія дапамагае будаўнікам хутчэй скончыць пабудову, ня гледзячы на шкодныя дзеяньні інжынэра, які імкнецца падарваць мост.

Рабочы глядач—вельмі добра прыняў пастаноўку. Наведваньне спэктакляў праводзілася пад лёзунгам „Ніводнага рабочага, які-б ня бачыў „Контр-атаку".

Навакол пастаноўкі была праведзена грамадзкая праца.

У файе тэатру была арганізавана выстаўка на абаронныя тэмы і пытаньні АСО-Авіяхіму, праводзіліся сярод гледачоў зборы грошай на пабудову самалёту і г. д.

Тэатрам за час працы ў Віцебску было арганізавана некалькі конфэрэнцый гледачоў, дзе заслухоўваліся справаздачы аб працы тэатру і праводзілася абмеркаваньне пастановак і іх якасьці.

Уся работа тэатру праходзіла пры вялікім падтрыманьні і кіраўніцтве з боку Віцебскага Гаркому КП(б)Б і гарпрафсавету.

Пры калектыўным удзеле ўсяго абслугоўваючага пэрсаналу, актораў, музыкаў і мастацкага кіраўніцтва—свой вытворчы плян тэатр з посьпехам выканаў.

Вось імёны лепшых ударнікаў:

— Бусел (актор), Дзелзюшка (актор), Клімянкоў (актор-капэрмейстар) Шашалевіч (акторка), Чарноў (актор), Перац (рабочы сцэны), Згіраўскі (актор) і інш.

З восені г. г.—тэатр, улічыўшы першы вопыт стацыянарнай працы—накіроўваецца ў г. Гомель.

Першая пастаноўка—„Контр-атака".



Артыст БДТ-3 Кліменкоў



Артыстка БДТ-3 Шашалевіч



Артыст БДТ-3 Чарноў



Артыст БДТ-3 Бусел

ЛІТАРАТУРНЫ СІЛУЭТ



# Сымон Баранавых

ГУМАРЭСКА

... а зязюлька кукавала!..

Адзін з гэрояў Сымона Баранавых,—Яугень Бурцелік аж да мадрыгулінкі падобны на свайго аўтара:

„Яўгень нявысокага росту, але зьвязлы такі, карчукаваты, шырокаплечы.

— Яўгень чалавек мяккай натуры. Вельмі спакойны. Па ім—што хочаш, абы не зайшло за жывое. Абы не зачапілі яго чалавечага „я". Яўгень у сваёй натуры роўны, як струна. Ён ня тое, што як у другога злосьць—не пасьпееш запаліць запалку. Быстрая такая. Ён вельмі-ж з меркаваньнем і ва ўсякай справе".

Гэта такі іменна і Сымон Баранавых.

— Яго, мабыць каб і ўшчыкнуў хто — усёроўна не ўзлаваўся-б!..

Уга,—які характар!



... па ім, што хочаш абы не зайшло за жывое!..

Нарадзіўся гэты характар у 1900-м годзе ў вёсцы Рудакова на Ігуменшчыне.

Яшчэ з сямі год будучы пісьменьнік пачаў карыстацца вельмі вялікаю даверлівасьцю сялян, другому пісьменьніку дык і плюгавай авечкі не давераць, — а Сымону уся вёска даверыла ганяць у поле ўвесь свой статак.

— Няхай ганяе! разважалі сяляне. Сымон ня тое, што як у другога злосьць—не пасьпееш запаліць запалку. Быстрая такая. Сымон вельмі-ж з меркаваньнем і ва ўсякай справе.

І Сымон спраўдзіў даверлівасьць сваіх аднавяскоўцаў.

За восем год што Сымон ганяў у поле статак,—ён ня тое каб карову,—ніводнай плюгавай неабасобленай авечкі не прапаў на старану. Восем год Сымон пасьвіў статак. Восем год слухаў мычаньне кароў ды авечак. Адна, кажа, авечка мэкне, другая мэкне, а тады ўвесь статак... Нічога больш аднастойнага, як гэтае нечленаразьдзельнае мычаньне, казаў Сымон,—у сьвеце няма.

Але за апошнія часы перачытаўшы зараг зборнікаў нашых поэтаў,—Сымон сьцьвярджае, што першачарговае цяжкае ўражаньне ў яго згладзілася на карысьць тых, каго ён пасьвіў.

Тыя, кажа Сымон, ня гэтак часта як нашыя, адзін пад аднаго мэкаюць!



Сымон на аванпостах!

Але трэба тут-жа адзначыць, што яшчэ тых гадоў Сымон ня любіць вершаў, бо аднойчы, калі ён сядзеў за складаньнем вершу, а каровы тым часам зайшлі ў шкоду, то пацярпеўшы дзядзька атабраў ад Сымона пугу і, шчоўкаючы ёю, паау дэк ямаваць Сымону верш, іменна ў тым сэнсе, што „поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан". Так што яшчэ з таго часу Сымон кінуў пісаць вершы і перайшоў на прозу.

Восем гадоў прапасьвіўшы статак, Сымон зьмяніў прафэсію і пачаў баранаваць поле.

Давялося Сымону Баранавых нямала баранаваць у полі.

А белапалякі ў тыя часы коняй адбіралі.

Пагнаўся быў афіцэр за Сымонам.

А Сымон на каня ды на ўцёкі...

Упякае Сымон ды мяркуе,—бо вельмі-ж хлапец з меркаваньнем і ва ўсякай справе:

— Ганіся,—мяркуе Сымон,—глузды-б табе адселі!.

Я цябе ў сваіх будучых кнігах яшчэ і ня гэтак успамяну! І Сымон Баранавых стрымаў сваё слова.

У сваіх кнігах ён гэтак успамінае польскіх афіцэраў:

— Упадку на вас няма!.. Немачы на вас няма!.. Безгалоўя на вас няма!.. Заўшніцы няма! („Чужая зямля"— стар. 50).

Так мабыць і ўвесь свой век прахадзіў-бы Сымон за плугам,—бо роўны-ж ён як струна, але з 1920-га году па 1923-ці год Сымон Баранавых прызваны ў Чырвоную Армію.

У 1923-м годзе Сымон Баранавых варочаецца ў сваю вёску і яго абіраюць у сельсавет.

Вось як у сваёй кнізе „Межы" Сымон Баранавых апавядае пра выбары аднаго з членаў сельсавета ў вёсцы Броды.

„Прыежджы хацеў вытлумачыць. Прыежджы казаў:

— Выбіраць трэба самага найсумленнага, самага найлепшага працаўніка. Так што глядзіце. Брожаўцы так сама тлумачылі, казалі.

— Ён ня злодзей!

— Ні з кім не задзіраўся!

— На пабягушкі ніякага сумленьня такоўскага не патрэбна.

— То-та-ж...

На гэтым і выбралі".

Сымон сьцьвярджае, што яго, іменна, абралі не затое, што ён ня злодзей, а як самага найсумленнага самага найлепшага працаўніка. Так сьцьвярджае Сымон,—іменна ў гэтым сэнсе і аднавяскоўцы выступалі.

Можа быць!

На Сымонавых выбарах, мабыць бедната выступала, а там у Бродах мабыць заможныя сера нікі жывуць.

У 1925-м годзе Сымон Баранавых паступае ў Менскі рабфак,—у 1928-м годзе Сымон канчае рабфак і паступае ў Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт. На гэтым пэрыядзе жыцьця Сымона Баранавых я супыняцца ня буду.



... Я цябе ў сваіх кнігах яшчэ і ня гэтак успамяну!

Праз тое Сымон ва унівэрсытэце ня ў прыклад трох пісьменьнікаў затрымаўся і скончыў яго толькі ў 1931-м годзе.

Пісаць Сымон Баранавых пачаў з 1927-га году. Сымон Баранавых упарта працуе над аздабленьнем свайго твору сакавітым словам, над сваімі гэроямі.

А за гэтымі гэроямі,—уга як пільна трэба глядзець, бо ледзь Сымон за імі ня прагледзіць, яны ў шкоду, то на перавыбарах чаго намудруюць, то разфілёзофствуюцца не да тэмы.

Але праз тое, я ня крытык, а гумарысты.

А розьніца паміж крытыкамі і гумарыстымі вялікая, бо крытыкі пішуць вялікія творы, а гумарысты ўсяго толькі сьмешныя.

Адно толькі нас бедных гумарыстаў і ўсьцішае і гэта тое, што ад вялікага і да сьмешнага адзін толькі крок.

*АЛЕША.*

*МАЛЮНКІ М. ПАШКЕВІЧА*

Уга, які характар!

Садова-гародны калгас „Чырвоны бераг“ Аршанскага раёну па-бальшавіцку арганізаваў сваю гаспадарку. За прайшоўшую частку 1932 г. калгас ужо мае 250.000 руб. валавога даходу ад праданай продукцыі. Цяпер у калгасе праводзіцца засолка гуркоў. Сотні тон гуркоў засольваюцца ў бочках і для лепшага захаваньня спускаюцца ў раку. На зіму гуркі ў бочках будуць перавезены ў спэцыяльны засолачны пункт, дзе на працягу ўсяго часу паміж бочкамі будзе цыркуляваць халодная крынічная вада



Засолка гуркоў у калгасе „Чырвоны бераг“



Бочкі з гуркамі спушчаныя ў раку (калгас „Чырвоны бераг“)

## ТАВАРЫШЦЫ С.

*Красавік 1932 г.*

Пісала я табе ў апошні раз, здаецца, увосень, а цяпер вось ужо вясна. Вясна—блакітнае неба, што кліча на волю, на прастор і ласкавае сонца і вясёлы неўгамонны сьвіст скварцоў на старай турэмнай ігрушыне і першы матылёк праляцеў над намі сёньня на прагулцы...

Але гэту вясну мы не сустракаем радаснай ухмылкай. Хто небудзь засьмяецца, а яму ў адказ ва ўсіх нахмурацца бровы: „Мы ўжо сьмяемся? А Каця, Каця-ж... Каці-ж няма“...

Ведай: нашай старай Каці, пра якую я табе з такой любоўю, гонарам пісала, няма ўжо, няма. 9 дней таму назад мы разьвіталіся з ёй назаўсёды. І сёньня яшчэ палаюць губы, апаленыя ледзяным холадам яе мёртвых рук, і мучыць, калі небудзь, нябачаная пры жыцьці нявыказная ўсьмешка на сьветлым, заспакоеным, зьмяніўшымся твары і сярод тысяч дум і пачуцьцяў бесьперастанку сьвідрue душу такая: „Мы ўсе дачакаемся волі і радасьці, а Каця, якая больш за ўсіх мучылася і страдала, ня ўбачыць.“

А як прагна хацела яна на волю. Як гарэла гэтай заветнай думай.

І нічога больш у яе ня было ў жыцьці апрача мары пра волю. Многа, многа раскажу я табе пра яе, калі сустрэнемся з табой, і ты будзеш, слухаючы, захапляцца і сумаваць і сьціскаць кулакі...

## УСІМ РОДНЫМ.

*30 красавіка 1932 г.*

Мае каханыя, дарагія! Як-жа зьмясьціць на гэтых маленечкіх чатырох старонках усё тое, што хочацца вам усім сказаць. А як-жа пішучы да вас, не дапісаць хоць некалькі слоў маме? Вось і рабі, чалавеча, што хочаш. Апошнімі часамі вы неяк так разварушыліся, што я аж ня веру сама сабе: два лісты ад Д., тры ад Н., тры ад В. Мілыя вы за гэта, слаўныя, і ня ведаю, як яшчэ вас назваць. Столькі радасьці глыбокай, столькі ўспамінаў, столькі жаданьняў прынесьлі мне гэтыя вашы лісты. Дзякую, дзякую! Толькі каб яшчэ тое месца, што займае ў вашых лістох трывога пра мяне і маё здароўе, вы запоўнілі навінамі пра сябе, я была-б да вас удзячная яшчэ больш. Так ня любім мы пра гэта чытаць! Такое гэта ня цікавае! І цяпер вось, замест таго, каб пісаць пра што людзкае, мушу карэмзаць пра здароўе, бо Н. так урачыста прасіла, што не магу адмовіць, тым больш, што, каб я, божа-барані, не напісала, дык пэўне-б думалі яшчэ ў 100 разоў горай.

Дык вось, Н., уяві сабе, што чорт зусім не такі страшны, як яго малююць. Ніякага тубэркулёзу ў мяне няма. Ты-ж мэдычка і ведаеш, што, каб у мяне быў тубэркулёз, дык я-б ужо даўно была на тым сьвеце, бо гэта цягнецца ўжо некалькі гадоў, а я сабе жыву і жыць буду. Некалі доктар з волі мне сказаў, што гэта бранхіт, а харканьне крывёй адбываецца ня з лёгачных ран, бо гэта было-б сьмяротна, а з нечага іншага. Ну, бачыш. А апрача таго вось ужо добрых некалькі месяцаў крывёю зусім ня плюю. Плечы баляць, але гэта глупства. Ну вось табе праўда. Будзь зусім спакойная і май пэўнасьць, што ўбачыш мяне здаровай. Канец.

Так, мая ласкавая, я вельмі цешуся, калі атрымоўваю ад цябе ліст пісаны па-беларуску. Так шмат гаворыць душы роднае слова ў гэтай далёкай чужыні. Хацела-б я яшчэ толькі, каб ты лепей ведала мову, не забывалася так хутка, а то робіш шмат памылак. А як я ўцешылася, калі ў В. лісьце прачытала: „загляне сонца і ў наша ваконца!“

Я, Н., вельмі, вельмі хачу, каб ты паступіла ў ВУЗ. Думаючы аб табе, мне здаецца, што табе за ўвесь гэты час неяк не хапала шырокага жыцьця, размаху, а ВУЗ табе гэты размах дасьць. Я трохі ведаю, як цяпер вучацца і з прыемнасьцю думаю, што ты апынішся ў такой атмасфэры. Не сумняваюся нават, што трохі раней, ці пазьней ты паступіш. Калі добра працуеш і хочаш—усё будзе добра.

А як ты жывеш, мілая Д.? Вельмі мне падабаецца ў табе тое, што ты імкнешся ўсё ўперад і ўперад, што адчуваеш дух і тэмп жыцьця, што хочаш, стараешся ісьці з ім разам, у нагу. Добра, каханая, толькі няхай нездаволенасьць з сябе, аб якой ты неяк пісала, дадае табе яшчэ больш энэргіі, але ня змушае нават на хвіліначку апушчаць рукі, ці губляць радасьць працы. О, не! Гэта не для нас! Як-жа я хачу цябе, Д., нарэшце ўбачыць.

А чаму гэта К. і В., мае дзяўчынкі маленькія, мне цяпер ніколі ані словачка не напішуць? За тое, што яны ня толькі вучацца, але і вядуць грамадзкую працу моцна, моцна цісну ім рукі. Але пісаньне да мяне лістоў—таксама грамадзкая праца. К. і В.—ці вы з гэтым ня згаджаецеся? Запытайцеся ў каго хочаце, кожны вам так скажа. Адным словам—вельмі прашу вас, мае дзяўчаткі, каханыя, напішэце мне. Жыцьцё ваша робіцца ўсё цікавейшым і я ўсё больш хачу пра вас ведаць.

## СЯСТРЫ Н.

*11 чэрвеня 1932 г.*

... Я вельмі, вельмі рада, што ты абяцаеш пісаць часьцей. З лісту твайго ты выдаешся мне такой сваёй, блізкай, што мне яшчэ мацней захацелася пазнаць цябе нарэшце ня з лістоў, а ў жывым жыцьці. Успомнілася апошняе наша спатканьне, твае лісты да мяне некалькі гадоў таму назад. Якімі-ж чужымі і страшэнна далёкімі былі мы тады? Што нас лучыла тады? Толькі тое, што мы—сёстры. А розьніла—усё. Як-жа рада я, што гэта мінула! І як цікава тое, што апынуўшыся так далёка ад цябе—я знайшла цябе. Сярод тысячы розных думак, якія лучацца з блізкай будучынай, з воляй, лунае думка і аб тым, што сустрэнуся з табой зусім інакш, як некалі даўно. Ну добра. Хутчэй бы ўжо, хутчэй. Сьмешна мне чуць, што ты плачаш чытаючы мае лісты. Чаго плакаць, чытаючы такія лісты. Што-ж ты ўжо будзеш рабіць, калі я некалі буду расказваць?

Ад мамы даўно няма ані словачка. Жадаю нашым старэнькім—маме і бацьку, здароўя і сілы. А табе, Н. мая, табе я жадаю перад усім актыўнасьці: не стаяць збоку жыцьця, бачыць ня толькі свой куточак, жыць шырока, жыць поўна і цікава, усю душу аддаваць творчай працы і вучыцца, вучыцца!..

Твая фотакартачка, Н., доўга стаяла ў нас на стале і К., мая суседка па камэры, табе ўсё расказвала, тлумачыла, распытвала. Бачыш, якія мы „паважныя“ людзі. Дурэем, як дзеці. Але мы-ж даўно ня бачылі вольных людзей... Турма... Якое-ж гэта макавае зернятка ў параўнаньні з шырокім вольным сьветам, і якімі-ж няважнымі, небалючымі выдаюцца ўсё нашыя мукі, калі зірнуць на іх з пэрспэктывы шырознай сучаснасьці, а асабліва будучыні! А мы так глядзець умеем...

## ПРЫЯЦЕЛЬЦЫ Г.

*31 ліпеня 1932 г.*

... Я ўжо так моцна, так моцна хачу бачыць вас усіх, бачыць усё, бачыць волю. Учора позна ўвечары ходзячы па камеры і напружана, з усёй сілай тугі і жаданьня паўтараючы ў думках выраз: „На волю!“ „На волю“, я заўважыла: якое магутна-крылае гэта слова: „В о л я“. Кажаш: „На волю“ і проста бачыш перад сабой, чуеш на сабе шырокія, моцныя крылы. Ляцець-бы ўжо! Умчацца-б уперад, далей, хутчэй. Я ведаю, што хутка ўжо, ведаю, што тое, што засталося—драбніца ў параўнаньні з тым, што ўжо мінула, але... але хочацца яшчэ хутчэй, хочацца сёньня ўжо зараз вось. Нічога. Будзе. Прыдзе.

Пішаш, што чакаеце мяне, помніце. Родненькая ты мая, ці ведаеш ты, што гэта значыць для мяне? Я проста дзіўлюся вам: як можаце вы праз столькі гадоў пісаць да мяне лісты, цікавіцца маім жыцьцём, выказваць столькі ўвагі, столькі прыязьні і ласкі. Мілыя вы, слаўныя, дарагія!

Добра думаць аб сьвеце шырокім, аб бурных хвалях жыцьця, аб людзях думаць і ведаць, што і я зараз буду сярод іх, з імі.

Кажаш, што часам тужыш па Менску. Ды што-ж ужо мне казаць? Успамінаеш, уяўляеш, ці хаця стараешся сабе ўявіць як выглядае цяпер мая родненькая Беларусь і душа заходзіцца ад тугі і шчасьця, ад нецярплівага жаданьня.

Пра сваё жыцьцё шмат пісаць ня буду. Цікава табе, ці жыву ў камэры адна, ці з кім разам? Так, жывём удзьвёх, я і К. Часта сьмяёмся так весёла, што не паверыў-бы, што гэта ў турме, гаворым амаль што выключна пра волю, ня гледзячы на тое, што волі ня бачыла вось ужо зараз 7 гадоў, а яна 4. Трохі чытаем, але вельмі, вельмі мала. Часам тую самую кніжку трэба чытаць 3-4 разы. Пацяшаемся тым, што на волі, на сьвеце шмат-шмат цікавых цудоўных кніжок. Часам кажа: „Калі я выйду на волю, я ніколі ня буду спаць. Усю ноч буду чытаць, чытаць, чытаць, а перад мной будзе лятаць вялікая вялікая гара кніжак. Вось будзе добра!“

Пра здароўе ты ня вельмі што клапаціся. Нічога. І сэрца, і лёгкія і вочы ўсе вытрымае. Хваробы ня псуюць мне настрою, не зьмяншаюць сілы. Чуеш у сабе такую дынамомашыну, што аж! Добра мне! Усё пазіраеш уперад і ўсьміхаешся да сьветазарных пэрспэктываў. Жывеш аднэй думкаю: хутчэй, хутчэй! Але як папхнуць той час, калі ён ляцеў кумяльгом?!

# НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ



10-га верасьня савецкая грамадзкасьць Менску адзначыла 50-годзьдзе са дня нараджэньня народнага паэта Рэспублікі — *Янкі Купалы*. У памяшканьні Дзяржаўнага Яўрэйскага Тэатру адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны юбіляру.

Вечар адчыніў уступнай прамоваю намесьнік наркому Асьветы тав. Рудніцкі. У прэзыдыуме: т. т. Купала, Колас, Домбаль, Ц. Гартны, Александровіч М. Лынькоў, Шапавалаў, Дунец, Мітлін і інш.

Пад шумныя воплескі прысутных абраны ганаровы прэзыдыум у складзе палітбюро ЦК УсеКП(б) і т. т. *Гікало, Галадзеда, Максіма Горкага.*

Юбіляра віталі ад імя аргкамітэту Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў — Міхась Лынькоў, ад імя БАН—першы віцэ-прэзыдэнт Акадэміі т. Домбаль, ад Праўленьня ДВБ тав. Ал. Некрашэвіч і інш. З прывітаньнем выступалі Платон Галавач і народны артыст Галубок.

Былі прачытаны таксама шматлікія прывітальныя тэлеграмы ад пісьменьніцкіх арганізацый Узбэкістану, Украіны, Ленінградзкага Аргкамітэту ССП.

З дакладам пра творчы шлях Янкі Купалы выступіў Ал. Кучар. У адказным слове Янка Купала падкрэсьліў, што толькі ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, ён атрымаў усе магчымасьці для плённай творчай працы. Янка Купала абяцае ўсе свае сілы, усю моц сваёй песьні аддаць на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва, на карысьць пабудовы бясклясавага грамадзтва.

У канцы вечару яўрэйскі паэт тав. Аксэльрод прачытаў свае пераклады па-а обных вершаў юбіляра на яўрэйскую мову. З чыткай вершаў, прысьвечаных Янку Купалу, выступалі П. Броўка, М. Лужанін і С. Шушкевіч.

Прэзыдыум юбілейнага вечару



Выступленьні на вечары
Зьверху ўніз:
Прамоўцы т. Рудзінскі т. Кучар, народны поэт Янка Купала.

## ПРАМОВА ПЕРШАГА ВІЦЭ-ПРЭЗЫДЭНТА Беларускай Акадэміі Навук тав. Домбаля

Беларуская Акадэмія Навук горача вітае свайго акадэміка—народнага паэту Беларусі Янку Купалу ва ўрачысты дзень 50-годзьдзя з дню яго нараджэньня.

Вялікі Кастрычнік стварыў Савецкую Беларусь. Ён вызваліў працоўныя масы БССР ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, даўшы поўную магчымасьць раней прыгнечаным працоўным масам шырока разгарнуць свае творчыя сілы, як у галіне гаспадарчага будаўніцтва, так і ўзбагачэньня каштоўнасьцяй сваей пралетарскай культуры, нацыянальнай па форме.

Вы сваімі творамі ў часы панаваньня царызму заклікалі на барацьбу за ўстанаўленьне лепшага жыцьця, за палепшаньне долі працоўнага сялянства.

Сваімі творамі, прасякнутымі спачуваньнем да бядот і гора прыгнечанай беларускай вёскі, вы абуджалі сьвядомасьць працоўных мас. Тады вы пісалі:

„Годзе брахні ўжо падкупленых зводаў,
Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых,
Сьцежку свабоднаму духу народу,
Сьцежку да сонца і зор залатых".

Сёньня, калі гэтая сьцежка да распрыгоненай працы, да разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва прапярэблена мільёнамі змагароў за Кастрычнік, вы перамоглі свае ранейшыя нацыяналістычныя хістаньні, стаіце на шляхох камунізму.

У сваім лісьце, які сёньня апублікаваны ў нашым друку, вы пішаце:

„Ганьбячы здрадніцкую работу нацыянал-фашызму, я заяўляю, што адзіны шлях да канчатовага вызваленьня працоўных мас—ёсьць шлях камунізму".

Шырокі далягляд сацыялістычнай будучыні раскрываецца зараз перад вамі. І вы ў сваёй творчасьці імкнецеся адлюстраваць той пафос сацыялістычнага будаўніцтва, якім поўніцца наша сучаснасьць.

Калі ў 1923 годзе вы пісалі, заклікаючы моладзь:

— Гэй, узьвейце сваім крыльлем
Арляняты буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай",

то зараз, бачачы наш рост, рост індустрыяльна-калгаснай Беларусі, якая пахавала старую забабонную, нацыяналістычную Беларусь, былую акраіну Расійскай імпэрыі, вы ў сваіх творах вітаеце дыктатуру працы, дыктатуру пралетарыяту, якая адна толькі была здольна гэта зрабіць. Вы верыце, што

„Жыцьцё бяз цемры і цярпеньня,
А ў ясным сонцы, як у байцы,
Для ўсіх вякоў і пакаленьняў
Збудуеш, дыктатура працы",

Радасьць распрыгоненай працы, вітаньне пераможнай рэвалюцыі, глыбокую веру ў канчатковую перамогу сусьветнага Кастрычніка—знаходзім мы ў вашых апошніх песьнях.

Глыбокім гневам і абурэньнем гучаць вашы песьні аб нядолі і горы братоў-рабочых і працоўных сялян у Заходняй Беларусі. Яны заклікаюць працоўныя масы Заходняй Беларусі змагацца пад сьцягам камуністычнай партыі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

Вы з абурэньнем адкідаеце фашысцкую хлусьню, вы пратэстуеце супроць правакацыйнага выкарыстаньня вашага юбілею беларускімі нацыянал-фашыстамі, якія робяць справу польскага і сусьветнага імпэрыялізму. У сваім лісьце вы пішаце:

„Я заклікаю іх (працоўныя масы Заходняй Беларусі) стаць пад адзіны сьцяг барацьбы, пад сьцяг камуністычнай партыі: Заходняй Беларусі—у саюзе з працоўнымі Польшчы у саюзе з усімі паднявольнымі народамі здабыць сабе тую свабоду, якую маюць іх браты ў СССР, у краіне дыктатуры пралетарыяту".

Беларуская Акадэмія Навук, пабудаваная воляй савецкай улады, лічыць сваёй асноўнай задачай быць актыўным удзельнікам у сацыялістычным будаўніцтве.

Акадэмія ўпэўнена, што акадэмік, народны паэта Янка Купала, якога мы сёньня горача вітаем, яшчэ многа год будзе працаваць на карысьць пралетарыяту, нашай Акадэміі Навук, на карысьць разьвіцьця культуры і літаратуры Савецкай Беларусі.

Няхай жыве наш дарагі юбіляр Янка Купала!

Няхай жыве камуністычная партыя!



Янка Купала ва узросьце 5—6 год.



Збоку: Янка Купала з сваёю маткаю ў 1929 г.

# ПРАМОВА НАРОДНАГА ПАЭТЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

Дарагія таварышы!

Былі недахопы і хібы
На шляху да новай сялібы,
Да новых расквечаных дзён
І крыўды былі немалыя,
У годы нягоды—у былыя,
Але ўсё мінула, як сон,
Сягоньня іначай, іначай—
І сэрца ня ные, і вочы ня плачуць,
І хочацца жыць і тварыць,
Для новых расквечаных дзён.

Ад шчырага сэрца прыношу сваю гарачую падзяку камуністычнай партыі, савецкай уладзе, грамадзкім арганізацыям і вам, таварышы, якія сабраліся тут, за ўспамін пра гадавіну майго паўвяковага жыцьця.

Камуністычная партыя і савецкая ўлада ўжо не адзін раз давялі на справе правільнасьць правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі. І сёнешні мой юбілей таксама сьведчыць пра гэта.

Калі там, у Заходняй Беларусі, скрыпяць вісельні і ў турмах стогнуць лепшыя барацьбіты за вызваленьне,—у нас, у БССР, зьвіняць прызыўныя песьні нячуванага творчага ўздыму да новай сьветлай будучыні. І толькі там, за мяжой, здольны распаўсюджваць усякую правакацыйную хлусьню аб жыцьці ў БССР і ў прыватнасьці аб адносінах да мяне савецкай улады. На гэту подлую брахню польскіх і беларускіх нацыянал-фашыстаў я даў учора свой адказ у лісьце да рэдакцый нашых газэт.

Пастанова УсеКП(б) ад 23 красавіка г. г. дала вялікія магчымасьці да шырокага разгортваньня літаратурнай працы ўсіх нацыянальных рэспублік нашага Саюзу.

Аўтограф вершу „Курган" напісанага 23/V—1910 г.



Янка Купала сярод пісьменьнікаў Міхася Чарота, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Дзьмітрака Бядулі (Здымак 1923 г.)

Пераклад Валерыя Брусава Вершу Янкі Купалы „Адцьвітаньне".

МАКСІМ ЛУЖАНІН

# ГОРАД ШТУЧНАГА ШОЎКУ



У калгасе імя 6-га райзьезду саветаў, Лепельскага раёну, пры выдачы калгасьнікам збожжавых авансаў улічваецца колькасьць выпрацаваных працадзён. Апрача таго, улічваецца якасьць працы калгасьн ка. Калгасьнік Камека Прахор працаваў сумленна і добра, выпрацаваў 115 працадзён і атрымаў аванс у 10 пудоў збожжа.

Фото СЕМЕНЯКІ.

## 1. Bombyx mori і віскоза

Пад ветлым паўднёвым сонцам, у павольным ходзе часу, на шаласьлівых плянтацыях белае морвы жыў маленькі чарвячок.

Ён марудна цягнуў бясконцую павуцінку, аблытваючы нямудрае сваё дзіцянё.

Так зьяўляліся коканы.

Коканы разбухалі ў гарачай пары, разматваліся на валаконцы.

Валаконцы называліся горда—шоўк.

Ім шамрэлі багатыя сукні, убраньні, ды яшчэ такія сякія акалічнасьці мудраваных арыстократычных страёў.

У гэтым шамрэньні зьвінелі тысячы рублёў, сыходзілі потам тысячы дзён рабскай ярэмнае працы.

Бо—

Нараджэньне шоўку вымагала выключных умоў, выключнага догляду і багата часу.

А час ішоў.

Час рабіўся грашмі.

Сьвет зразумеў выгоднасьць шоўкавай тканіны.

Сьвет захацеў апрануцца ў шоўк.

Хутка. Адразу.

І хуткасьць, недахоп часу высунулі—

На зьмену надзіманаму арыстакрату, выкарчаванаму на лістох белае морвы, гэтак званаму натуральнаму шоўку—новага спадкаемца.

Зьявіўся шоўк плябей, штучны шоўк.

Ён прышоў, задыхаўшыся ў часе крызісаў, у напружаньні найноўшае эўрапэйскае індустрыі і вывалак на сьвет закінута[illegible]а нямецкага прадпрыемца, даўшы яму ў рукі мі[illegible]ёны.

Адыйшлі, зблякнуўшы ў колерах, вясёлыя морвы (morys alba), пабраўся гл[illegible]бей у іхнае лісьце вусень шоўкавае папрадніцы (bombyx mori).

На іхнае месца сталі новыя назвы і новыя чыньнікі. Проста з балонак хэміі прышлі: каўстык, цэлюлёза, серавуглярод, сярчаная кісьліна. Проста з вынаходак найноўшае тэхнікі зьявіліся:

П[illegible]а[illegible]зільная машына з платыновымі фільерамі, з ваннамі [illegible]днаўленьня, з спалучэньнем законаў цэнтрабежнае сілы, з законамі хэміі.

А замест аднаго монополіста—натуральнага шоўку пачалі апранаць чалавецтва:

Віскозны шоўк, ацытатны, штапельнае валакно (імітацыя шэрсьці), нітра шоўк і нават люфт-зайдэ (паветраны).

Нахабны плябей пачаў расьці да пашырацца, знаходзячы сабе матар'ялы і месца нараджэньня ў кожнай часьціне сьвету.

Ён адразу зьбіў рызыку свайму ганарліваму супарату, перарастуціўшы, праўда, крых[illegible] ў якасьці, але за тое так ударыўшы па сабекошту, што [illegible]ват [illegible]воўне давялося пасунуцца, даць месца маладой тканіне.



Ударнікі фінпаходу Магілёўскай шоўкавай фабрыкі

І калі хваля шоўкавага ўплыву дакацілася да царскай імпэрыі, тупарылыя „отечественные“ прамыслоўцы не адужылі складанага хэмічнага працэсу.

Давялося запрасіць гасьцей.

У Мыцішчах, у закінутай вагоннай майстэрні, зусім не прыстасаванай пад вытворчасьць, некалькі год перад вайною хежала французска-бэльгійская концэсія, але вынікаў не дала.

Аднак, усюдых, стрэча віскозы з bombyx'ам mori павяла апошні на заняпад.

## 2. Два Магілевы

За сетку цэркваў ды манастыроў, раскіданых і ў горадзе і па ваколіцах, за зграю гэтак званага чорнага духоўніцтва— стары Магілеў уважаўся за „оплот православия“.

Пасьля, вымудры апошняга прадуркаватага цара зрабілі яго „царскаю стаўкаю“.

„Истинно-руские“ беларусы мелі яго за „магілу льва“— легендарнага разбойніка Машэкі.

Цяпер у Магілеве 22 тысячы пролетарыяту.

Ён уключыў у строй рэспубліканскай прамысловасьці шоўкавую, швэйную, гарбарную, трубаліцейны, серавугляродны, косьцеапрацоўчы.

Уключыў, зьвіначваючых аблічча гораду і краіны.

Паплыў па Дняпры флёт маладой рэспублікі.

Перагукнуліся на станцыі цягнікі з грузам машын для [illegible]раду.

Горад узьняў галаву, уздыхнуў на поўныя грудзі, ды пачаў расьці і ўдоўжкі, і ўшыркі і ўвышыню.



Шоўкавая фабрыка. Зьлева направа: т. Тарасаў—сакратар рэд. насьценгазэты „Чырвонае верацяно", т. Сталяроў—старшыня фабкому, т. Эстэркін—рэдактар насьценгазэты

Так на беразе Дняпра, дзе крыху выломваюцца пяшчаныя горы, у сьвежасьці Кастрычнікавай раніцы, назначыўся новы абрыс, новы асяродак, новы горад.

У дзень туды нясьпынна рушацца людзі.

Адны да варштатаў, другія з плянамі, з чарцяжамі новых машын, трэція—з дамамі, сталоўкамі, радыё, кіно.

Рушацца арганізаваныя адной воляю, скіраваныя ў русла агульнай работы.

Уначы—там працуе апошняя зьмена і стаіць напагатове камандны склад будаўніцтва рэспублікі.

Уначы над соцыялістычным горадам багата сьвятла.

### 3. Нараджэньне шоўку

Прайшоўшы маленькі калідорчык, каля чырвонаармейца з напружанай дбайнасьцю на маладым твары, ахінаешся ў жыцьцё фабрычнага двара.

Роўнымі чырвонаватымі бакамі выхваляюцца галоўныя карпусы шоўкавае фабрыкі.

Крыху ў бок—чатыры дымарні цяплоэлектрацэнтралі, вадазьмякчальная ўстаноўка, дапаможныя майстэрні.

Пахне маладою будоўляю.

З найвышэйшага пункту будаўніцтва далёка відаць сіняе волава Дняпра. Лупалава, рыштаваньні новых пабудоў.

Тэрыторыя фабрыкі дужа вялікая. Гарбарная поруч з ёю выглядае адным невялічкім цэхам.

І так, праз хэмічны корпус, узнагароджаны чырвоным штандарам, ад барабанаў з каустэчкам, паўз вялізарныя бакі шчолаку, мінуўшы роўныя пакункі жаўтаватых аркушаў цэлюлёзы, мы трапляем у цудоўны пакой.

Ён называецца камэра папярэдняга высьпяваньня.

Там вылежваецца раздрабаваная набрынялая шчолакам цэлюлёза.

Вылежваецца блізка 70 гадзін, сьпее, вызначаная якасьць віскозы ў недасьледаваным яшчэ процэсе, каб пайсьці далей, павінна перамалоцца, рашчыніцца ў кісьлінах, выстаяцца ў падвале і выскачыць праз фільеру тонкаю ніцінкаю сырога савецкага шоўку. У ёй ужо нельга пазнаць ні цэлюлёзы ні каўстыку.

Адбыліся рэакцыі.

Зьявілася новая матэрыя,—шоўк.

Яму цяпер трэба перамыцца, разьвіцца на маткі, каб пад спрытнымі рукамі гатункавальніц, у чыстай прасторнай залі, разьбіцца на гатункі да накіравацца на ткальныя фабрыкі.

Калі на горад ударыла дружна вясна, набліжаючы наша вясёлае маёвае сьвята, яна засьпела камсамольцаў шоўкавае за вялікаю сьпешнаю работаю.

Іх было траіх. Смолкін, Бляхераў і Урын.

Віскоза—рэчавіна, з якое выпрадаецца шоўк, мае крыху уласьцівасьцяй гумы.

Корак рэч танная, але яго трэба купляць за мяжою.

Корказы дуб у нас не расьце.

А пакольки кожная бутэлька, незалежна ад свайго зьместу ды ёмістасьці, выцягваючы вузкае горлейка, патрабуе корка—золата даводзілася плаціць.

З гэтае бяды выручыла віскоза.

Яна згадзілася, пры асобнай апрацоўцы, і на падэшвы і на тубы для вазэліну, замяніўшы дарагі сьвінец, і на бутэлечныя закрыўкі.

Усім даводзілася бачыць бутэлькі ў жоўтых, падобных да гутапэрчу, шапках.

Гэтыя шапкі робяцца на шаўковых фабрыках.

У Магілеве іх рабілі марудна.

Работніцы мачалі шкляныя пробіркі ў віскозу і пакрысе перасоўвалі іх у ваньне з кісьлінаю і гарачаю вадою.

Паволі. Рукамі.

Рукі ў гумовых рукав'цах.

Тры камсамольцы, пад кіраўніцтвам нямецкіх спэцыялістаў Зомэра і Зэгмэра, сконструявалі коркавы конвэер.

Гэта першамайскі падарунак рэспублікі.

Конвэер скарачае ў дзесяць разоў нагрузку рабочае сілы.

Паступовасьць ягонага руху, ашчаднае выдаткаваньне матар'ялаў. Апрача гэтага камсамольцы рацыяналізавалі пакаваньне калёрыфэруа ў вэнтыляцыйным корпусе.

Зрабілі проэкт унівэрсальнай струбцыны для здыманьня шківаў. А трывалы шарыкападшыпнік у цэнтрабежнай помпе дае эканоміі 5.000 рублёў.

Тады камсамольцы сказалі:

„Руку на дружбу, тав. інжынэр"!

Пад гэтым лёзунгам рыхтаваў камсамольскі колектыў фабрыкі вечарыну камсамольцаў ударнікаў і рацыяналізатараў разам са спэцыялістамі.

Падлічыць ёсьць што.

Рацыяналізатарская думка на фабрыцы працуе жвава і ўпарта.

Ініцыятываю бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва створана „Пазыка рабочай кемлівасьці".

Зроблены аблігацыі 50—75—100 рублёў.



Сушка і пералапачываньне падмочанай дажджом пшаніцы ў калгасе „імя Тэльмана". Крым



Старэйшы агранам Лівенскай вопытнай станцыі (ЦЧО) т. Дзяешко А. Е. прэміраваны пуцёўкай у дом адпачынку за добрую пастаноўку і высокую якасьць вопытнай навучна-дасьледчай працы. Унізе. Сартыроўка насеннага жыта да азімай сяўбы



Рабочы, што дае прапанову, атрымлівае пэўную колькасьць аблігацый. Пасьля адбываюцца разыгрышы. Тады, тым, што выйгралі, выплачваецца выйгрыш і номінальная каштоўнасьць аблігацыі.

Тыя, што ня выйгралі—атрымліваюць промтавары з ЗРК.

Такім парадкам, за 1-ы квартал паступіла 383 прапановы і рэалізацыя толькі часткі з іх (63) дало эканоміі блізка ста тысяч рублёў.

Удзел камуністаў і камсамольцаў у рацыяналізацыі складае 35 проц.

Агульнае ажыўленьне рацыяналізацыі высунула думку пра прамтэхфінплян, упяршыню ажыцьцёўлены на „Светлане".

1-я тэхнічная конфэрэнцыя фабрыкі, абмеркаваўшы зацьверджаны Ўсесаюзным аб'яднаннем штучнага валакна прамфінплян, знайшла, што ў ім ня былі ўлічаны ўсе ўнутраныя магчымасьці фабрыкі, скарыстаўшы якія льга дамагчыся больш высокіх колькасных і якасных паказчыкаў.

Можна больш ашчадна выдаткуючы сыравіну даць рэспубліцы заместа вызначаных па прамфінпляну 1.254 тон шоўку за год—1.409 тон.

Зьмяншэньне нормаў выдаткаваньня сыравіны зьніжае сабекошт кілё шоўку на 32,2 кап.

Было ўлічана ўсё: ушчыльненьне рабочага дня, коэфіцыент карыснага дзеяньня машын, павышэньне гатунковасьці.

Тады пачалося змаганьне за аўладаньне тэхнолёгіяй вытворчасьці, за зьліквідаваньне агульнай і тэхнічнае няпісьменнасьці на фабрыцы.

У 14 тэхнічных гурткоў улілося 370 комсамольцаў.

Пачало шырыцца соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Яно ахапіла камуністаў цалкам і камсамольцаў вытворчых цэхаў на 89 проц.

28 гасразьліковых брыгад фабрыкі далі вялікі эканамічны эфэкт і ўмацавалі працоўную дысцыпліну, зьнішчыўшы прагулы і зьнізіўшы брак.

За першы квартал 1932 г. эканомія складае 42 тыс. руб. супроць 84 тыс. р. усяго мінулага году. Выкананьне плянаў пачало брацца ўгару і даскочыла да 102 проц. Бальшавікі шоўкавай умеюць працаваць і працуюць упарта. Выканаўшы наказ ЦК КП(б)Б пра пуск Цяцлоэлектрацэнтралі да 15 кастрычніка мінулага году, яны ўзяліся за монтаж і пуск турбіны да 1-га мая. Гэта вялізарнейшае дасягненьне шоўкавай ды і ня толькі яе аднэй.

Турбіна, рушыцца адпрацаванаю ў цахох параю, параю, якая не каштуе нічога. І гэта ўлівае ў сыстэму Белдрэсу 5.000 кілёват новай энэргіі. Гэтай энэргіяй забясьпечваецца бесьперапынная праца фабрыкі і бліжэйшых заводаў. А рэгулярная падача току дае багата выйгрышу, бо цэлую зіму псавалася сыравіна, спыніліся, тарнуючы процэс, машыны.

Белдрэс меў мала торфу і даваў мала току. Спатрэбіўся свой ток і ток зьявіўся. Так сказалі і зрабілі пролетарыі шоўкавай. Пасьля перабудовы партмасавай работы, пасьля перанясеньня цэнтру ўвагі ў цэх і брыгаду, парт'організацыя вырасла да 340 асоб за кошт лепшых актывістаў, ударнікаў вытворчасьці. Зрабілася тысячнаю армія камсамольцаў. І ў гэтай тысячы за першы квартал толькі два парушэньні працоўнай дысцыпліны.

### Заключэньне

Цяпер фабрыка дамагаецца працаваць на поўную магутнасьць. Капітальнае будаўніцтва ў асноўным закончана. Будуецца рабочы пасёлак пры фабрыцы. Бяручы на ўвагу адлегласьць фабрыкі і бадай што поўную адсутнасьць мясцовага транспарту—кватэра пры фабрыцы неабходная ўмова плённай працы рабочага. Шоўкавая мае ад Усесаюзнага аб'яднаньня штучнага валакна пераходны чырвоны штандар. Гэта цяпер найбольш буйная адзінка саюзнай вытворчасьці шоўку. За ёю цэлы шэраг перамог. У яе наперадзе ўпартасьць і моладасьць. Гісторыя шоўкавай невялікая, але паказальна гэроічнай барацьбою, узорнаю працаю. У гісторыі фабрык і заводаў БССР яна павінна заняць па праву адно з першых месц. Рэспубліка павінна ведаць гэрояў шоўкавай. Мінаючы гэтыя кароткія радкі, раскажу і я ўсё што ведаю пра іх.

Гэта ў новай рабоце, бо тут канчаецца работа зьбіральніка і пачынаецца праца гісторыка і мастака.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

# ШАХМАТЫ № 16 (26)

Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА

**Эцюд № 2**



Г. Н. Захадзякін (Масква)
„Шахматы в СССР“, 1932 г.
Белыя пачынаюць і выйграюць

**Задача № 73**



М. А. Гарбыловіч (Менск)
Друкуюцца ўпершы раз
Мат у 2 хады

**Задача № 74**



П. Мухін (Ленінград)
Мат у 2 хады
Друкуюцца ўпершы раз.

## V УСЕБЕЛАРУСКІ ШАХМАТНА-ШАШАЧНЫ ЗЬЕЗД

### Рашэньні зьезду баявая праграма работы

За час з IV зьезду шах-шаш. рух БССР прарабіў значны крок уперад у галіне перабудовы свае працы на падставе рашэньняў партыі і ўраду па падпарадкаваньню яе—асноўным задачам соцбудаўніцтва, што выказалася ва ўзросьце арганізацыі і прасоўваньні шахмат і шашак ў шырокія колы працоўных, шляхам арганізацыі сэкцыі, гурткоў на вытворчасьці, ударных ш-ш брыгад і г. д. Аднак тэмп росту арганізацыі зусім нязначны ў параўнаньні з ростам соцбудаўніцтва і культурнага ўзроўня рабочае клясы. Гэта зьявілася вынікам таго, што ш-ш рух яшчэ ня поўнасьцю ўключыўся ў агульную сыстэму ФК, хоць асобныя арганізацыі (Полацак) прарабілі ў гэтай галіне ўжо значную работу. Пачын Полацку — злучэньне ш-ш спаборніцтва з комплексам ГПА, паказвае як Полацкая арганізацыя ня толькі фармальна, але і па зьместу сваёй работы стала сустаўной часткай ФК руху. І зьезд абавязаў усіх арганізаваных шахматыстаў, шашыстаў на працягу 1932 году распачаць здачу норм на значок, з тым, каб да сусьветнай спартакіяды 60 проц. ш-ш арганізацыі поўнасьцю здалі нормы. Адсутнічаньне чоткіх арганізацыйных форм—зьяўлялася асноўным недахопам ш-ш арганізацыі. Яно прыводзіла да самацёку, бясплянавасьці і адрыву ш-ш арганізацыі ад агульнай дзейнасьці ФК арганізацыі. А таму арганізацыя ш-ш сэкцыі пры РСФК і бюро ФК прафсаюзных арганізацый зьяўляецца неадкладнай работай для зьнішчэньня гэтага недахопу.

Адной з асноўных задач ш-ш руху на даным этапе зьяўляецца барацьба за масавасьць, за ўцягненьне шырокіх колаў працоўных у ш-ш арганізацыі. Выкананьне гэтай задачы немагчыма без вырашэньня праблемы кадраў. Зьезд у сваіх рашэньнях гэта асабліва падкрэсьліў: „неабходна дабіцца ўключэньня гадзін на шах.-шаш. работу ва ўсіх РК, у навучальных установах, давядзеньня ліку гадзін па ш-ш дысцыплінам у Менскім Тэхнікуме ФК да 48 і адчыненьня з восені 1932 году ш-ш аддзяленьня з наборам ня менш 40 асоб“.

Адначасова з гэтым неабходна наладзіць скарыстаньне старых высокакваліфікаваных ігракоў, уцягваючы іх у штодзенную работу. Барацьба за масавасьць ставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб будаўніцтве ш-ш баз. Яны павінны зьявіцца рашаючым зьвяном у вырашэньні гэтай задачы.

Вырашэньне задач высунутых V Усебеларускім шахматна-шашачным зьездам магчыма толькі пры ўмове поўнай мабілізацыі ўсіх членаў ш-ш арганізацыі, магчыма толькі тады, калі ўся работа будзе ўвязана па зьместу з работай ФК арганізацыі і будзе падпарадкавана асноўным задачам сацыялістычнага будаўніцтва і падрыхтоўцы да сьвята 1-ай пяцігодкі,—Сусьветнай спартакіяды.

І ніводзін шахматыст і шашыст ня будзе дапушчан да ўдзелу ў сусьветнай спартакіядзе, не правёўшы спартакіяды ў сябе на фабрыцы, на заводзе, у школе, у ВНУ, частцы Чырвонай арміі і г. д. Неабходна, каб 4 асноўных лёзунгі падрыхтоўкі да сусьветнай Спартакіяды сталі праграмай работы на бліжэйшы час. ВСФКБ з мэтаю арганізацыі ўздыму шырокіх мас шахматыстых і шашыстых вакол рэалізацыі рашэньняў V Усебеларускага і VII Усесаюзнага ш-ш зьездаў пастанавіў распачаць з 1-га лістапада Ўсебеларускі конкурс на лепшую ш-ш сэкцыю па падрыхтоўцы да Сусьветнай спартакіяды.

Быць пераможцам справа гонару кожнай ш-ш сэкцыі.

### Дзелавая частка

30 ліпеня ў клюбе імя VII зьезду Прафсаюзаў Беларусі ў прысутнасьці звыш 200 дэлегатаў і гасьцей з Менскіх фабрык і заводаў, нашых лепшых актывістаў адчынілася дзелавая частка V Усебеларускага ш-ш зьезду.

Упяршыню ў БССР прадстаўнікі большасьці раёнаў зьехаліся на такі вялікі зьезд, лішні раз пацьвярджаючы бязупынны рост шахматна-шашачнага руху БССР, сустаўной часткі савецкай сыстэмы фізкультуры.

Зьезд адчыніў адказны сакратар шахкамітэту ВСФКБ тав. Губчэўскі.

Па сканчэньні выбараў сакратарыяту і рэдкамісіі, з прывітаньнем і рапартам зьезду выступіла жаночая гаспадарчаразьліковая брыгада ш-ш брыгада імя Н. В. Крыленка (Шчотачная фабрыка імя Крупскай, Менск).

Пасьля зьезд заслухаў даклад т. Гольдзбэрга, старшыні ш-ш камітэту ВСФКБ аб становішчы і чарговых задачах ш-ш руху БССР.

Раняшняе пасяджэньне адчынілася дакладам т. Губчэўскага аб задачах арганізацыйнай перабудовы сярэдняга і ніжэйшага зьвяна і рабоце сэкцыі і інфармацыяй т. Руміна, прадстаўніка Выканбюро Аб'яднанага Шахсэктару ВСФК СССР і РСФСР аб кваліфікацыйнай рабоце, пасьля чаго прыступілі да спрэчак. У спрэчках выступіла 25 таварышоў.

На вячэрнім пасяджэньні была прынята аднагалосна рэзалюцыя, пасьля чаго адбыліся выбары кіруючых органаў ш-ш арганізацыі. У склад пленума ўвайшло 35 таварышоў.

### 1-ый пленум Шахсэктару ВСФКБ

На 1-ы пленуме шахсэктару ВСФКБ, які адбыўся 31 ліпеня, адбыліся выбары Выканбюро. У выканбюро абраны адзінаццаць таварышоў:

1. Гольдзбэрг (старшыня) 2. Губчэўскі (адказны сакратар), 3. Гарэлы (БВА), 4. Зубец (Дынама), 5. Камянецкі (сэкцыя ш-ш кампазыцыі), 6. Касьперскі (ВКК) 7. Ліхадзіеўскі (рабочы абутковай ф-кі, сябра-пленуму Шахсэктару ВСФК СССР), 8. Ліпман (работніца шчотачнай ф-кі, брыгада імя Н. В. Крыленка), 9. Кейлес (рабочы ф-кі „Усход“), 10. Мазэль ЦСПСБ), 11. Насьцюшонак Менскі (ГСФК)

Наступны пленум вырашана склікаць праз 3 месяцы.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2320. 3000 экз. Галоўлітбел № 1054.

ЦАНА 15 кап.




СВАЯЧАСОВАЙ
УБОРКАЙ БУЛЬБЫ
ЗАБЯСЬПЕЧЫМ
СВАЯЧАСОВАЕ СНАБЖЭНЬНЕ
БУЛЬБАЙ
РАБОЧЫХ ЦЭНТРАЎ

Фото Ге-Гурэвіча.